


WARREN ELLIS • DARICK ROBERTSON • RODNEY RAMOS

SUGGESTED FOR MATURE READERS

8 • APR 98
$2.50 US
$3.50 CAN

★ ★ ★ ★ LATE EDITION ★ ★ ★ ★

# TRANSMETROPOLITAN



PHOTO BY DARICK ROBERTSON

ТРАНСМЕТРАПАЛІТЭН #8
ПЕРАКЛАД:
АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ: COMICSBY
COMICSBY.BY
VK.COM/COMICS_BY

.BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

Сцэнар: Уоран Эліс. Аловак: Дэрык Робертсан

# ІНШАЯ ХАЛОДНАЯ РАНІЦА

Туш: Родні Рамас
Лэтэрінг: Клем Робінс
Колер і сепарыраванне: Натан Эйрынг
Ас.рэдактара: Кліф Чанг
Рэдактар: Сцюарт Мур
Афармленне: Сяргей Козыраў
Пераклад: Артур Барадачоў



**TRANSMETROPOLITAN** 8. April, 1998. Published monthly by DC Comics, 1700 Broadway, New York, NY 10019. POSTMASTER: Send address changes to TRANSMETROPOLITAN, DC Comics Subscriptions, P.O. Box 0528, Baldwin, NY 11510. Annual subscription rate $30.00. Canadian subscribers must add $12.00 for postage and GST. GST # is R125921072. All foreign countries must add $12.00 for postage. U.S. funds only.   Printed on recyclable paper.
Printed in Canada.
DC Comics. A division of Warner Bros.–A Time Warner Entertainment Company 

УЛАСНАЕ СЭРЦА ЗАГАНЯЛА
МЭРЫ Ў ХОЛАД.









З ПАЎДНЁВАЙ КАЛІФОРНІІ ЯНЫ СА СТЫВЕНАМ ПЕРАБРАЛІСЯ Ў ПАЎНОЧНУЮ, УЗЯЎШЫ З САБОЙ НЕПАКОЙ І СТЭНАКАРДЫЮ. ПРЭЧ АД НЯСЦЕРПНАЙ СУХОЙ СПЯКОТЫ, ТУДЫ, ДЗЕ НАДВОР'Е МЯКЧЭЙ І ЎРАЧЫ ПАЛЕПЕЙ.

У БОЛЬШ ПРАХЛАДНАЕ МЕСЦА.

ДРУГІ ПРЫПАДАК НАПАТКАЎ ЯЕ, КАЛІ ЯНА ЛЮБАВАЛАСЯ ВІДАМ НА БУХТУ САН-ФРАНЦЫСКА.

СПРАВА ЗАСТАВАЛАСЯ ЗА ТРЭЦІМ. ДАКТАРЫ ХАДЗІЛІ КРУГОМ І НАВАКОЛ, АЛЕ ІХ ПОЗІРКІ НЕ АБЯЦАЛІ НІЧОГА ДОБРАГА. МОЛАДЗЬ ІЛГАЦЬ НЕ ЎМЕЕ.

НА ТЫМ ТЫДНІ МЭРЫ БАЧЫЛА СВАЁ СЭРЦА НА НОВЫМ БАЛЬНІЧНЫМ СКАНАРЫ. ЯНО ПАЧЫНАЛА НАГАДВАЦЬ НЕШТА, ШТО НЕ ПАСПЕЛІ СВОЕЧАСОВА СХАВАЦЬ У МАРАЗІЛКУ.





А ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ ЯНЫ СА СТЫВЕНАМ ЗАКЛЮЧЫЛІ ДАГАВОР З ФОНДАМ РАЙЛІ «АДЛОЖАНАЕ ЖЫЦЦЁ».
N2
Cryonic Supplies
FREEZE TEAM ONLY




ПРАЗ МЕСЯЦ ЯНА ПРАХРЫПЕЛА СТЫВЕНУ «ДА СУСТРЭЧЫ», ПЕРШ ЧЫМ ЯЕ СЭРЦА СТАЛА ШЭРЫМ І НЕРУХОМЫМ... ТАК У ШЭСЦЬДЗЕ-СЯТ ЧАТЫРЫ ГАДЫ ЯЕ ЖЫЦЦЁ АБАРВАЛАСЯ.
MARY


ТО БЫЛІ ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ЧАТЫРЫ ЧАРТОЎСКІ ГАРАЧЫЯ ГАДЫ.
NIKO


ЯНА БАЧЫЛА ВАЙНУ, ЯКАЯ ЎЗБУДАРАЖЫЛА ЎСЮ АМЕРЫКУ. БАЧЫЛА СВАІМІ ВАЧАМІ.


ЯНА БАЧЫЛА ПЕРШЫЯ КРОКІ Ў НЕПАЗНАНАЕ.


ЯНА БАЧЫЛА, ЯК РАЗДЗЕЛЕНЫ НАПАЛАМ ГОРАД УЗ'ЯДНОЎВАЮЦЬ СІЛАЙ КУВАЛДАЎ.
POTT
PINK FLOYD


ЯНА БАЧЫЛА УІЛЬЯМА БЕРОЎЗА, НЕЛЬСАНА МАНДЭЛУ І РЫЧАРДА НІКСАНА, БАЧЫЛА «БІТЛЗ» І МАЦІ ТЭРЭЗУ.
ZOOM LENS EF 35-80mm F/1.4 -5.6
NIKO, INC.


У ГАЛАВЕ МЭРЫ ЗАХОЎВАЛАСЯ ГІСТОРЫЯ; НЯПРОСТАЯ ГІСТОРЫЯ, НЯЗНОСНАЯ І ЛЮБІМАЯ. ЖАДАЛА МЭРЫ ТОЛЬКІ АДНАГО – БЫЦЬ ЯЕ СВЕДКАМ І Ў ДАЛЕЙШЫМ.















АПОШНІЯ СЛОВЫ СТЫВЕНА БЫЛІ ТАКІЯ: «ХОЦЬ БЫ СТУЛЬЧАКІ СВАЕ МАРКІТАВАНЫЯ МЫЛІ...»


FREEZE
#239
DO NOT OPEN
EBOLA
ШЭСЦЬ ТЫДНЯЎ ТАМУ СЛУЖБА РЭКАНСТРУКЦЫІ ДАБРАЛАЯ ДА МЭРЫНАГА БАКА.


ТО І СПРАВА ПАГЛЯДАЮЧЫ НА ГАДЗІННІК, ЯНЫ ЗЛІЛІ ВАДКІ АЗОТ І, СУНУЎШЫ ГАЛАВУ МЭРЫ Ў ПОЛЕ АПАЗНАННЯ, ПАПЕРЛІСЯ НА ЛАНЧ У АФРЫКАНСКУЮ СТАЛОВУЮ.


DIRT
H2O
НАПАМПАВАЎШЫСЯ МАТОКЕ, ЯНЫ ВЯРНУЛІСЯ І ЎПЭЎНІЛІСЯ, ШТО МЭРЫ САПРАЎДЫ БЫЛА ТОЙ, ПРА КАГО КАЗАЛАСЯ Ў СТАРАДАЎНІМ ДАГАВОРЫ ХАВАННЯ. ПАСЛЯ ЧАГО ЯНЫ ПАЧАЛІ ВЫРОШЧВАЦЬ ЁЙ ЦЕЛА ПАВОДЛЕ АСНОЎНЫХ ПАЖАДАННЯЎ.


У РАЙЛІ ПРАЦАВАЛІ ПЕРАКАНАНЫЯ АПТЫМІСТЫ; ЯНЫ Ж ВЕДАЛІ: ЭПОХА НАНАТЭХНАЛОГІЙ І БЕСКАНТРОЛЬНАГА КЛАНАВАННЯ ПАВІННА БЫЛА АДНОЙЧЫ НАДЫСЦІ.
(КАЛІ НЕ ЯНА – ДЫК УСЕАГУЛЬНАЕ ЎЗНЯСЕННЕ НА ГРЫБАПАДОБНЫМ ВОБЛАКУ, НУ ЦІ ЧЫМ ЯШЧЭ Ў ТЫЯ ДНІ НАС ГРАЗІЛІСЯ ПАЧАСТАВАЦЬ НА РАГНАРОК)
ТАМУ І ПРАПАНАВАЛІ СВАІМ КЛІЕНТАМ АСОБЫЯ ПАСЛУГІ.

ПРАЧНУЦЦА Ў НОВЫМ СВЕЦЕ, ДЫ ЯШЧЭ З ЦЕЛАМ ДВАЦЦАЦІГАДОВАЙ! ЛАЙНО, **ЛЮБОЙ** ДВАЦЦАЦІГАДОВАЙ. ПАТРАБУЙЦЕ, КАБ ВАМ ВЯРНУЛІ ЮНАЦТВА, ЦІ ПРЫШПІЛЬЦЕ ДА ДАГАВОРА ЗДЫМАК ТАГО, НА КАГО ЖАДАЕЦЕ ПАХОДЗІЦЬ. УВЕСЬ ФОНД РАЙЛІ НЯ СТАЎ БЫ АБМЯРКОЎВАЦЬ ВАШЫ ВАР'ЯЦКІЯ ЗАПЫТЫ.

«ЖАДАЕЦЕ ГАЛАВУ ДЖОНА УЭЙНА, ЦЕЛА АРНОЛЬДА ШВАРЦНЭГЕРА, ЧЭЛЕС БЫКА-АСЕМЯНЯЛЬНІКА І ЯЙКІ ПАМЕРАМ З БАСКЕТБОЛЬНЫЯ МЯЧЫ? ЛЁГКА. У БУДУЧЫНІ ЎСЁ ГЭТА СТАНЕ МАГЧЫМА...»






І ВОСЬ ЦЯПЕР, ПРАЗ ШМАТ ГАДОЎ, ГАРАДСКІ РЭКАНСТРУКТАР ЗАПУСЦІЎ У ЯЕ ШЧУП, КАБ УЛАВІЦЬ ВОДГАЛАС ЦЯЛЕСНАЙ ПАМЯЦІ. АЛЕ ШЧУП БЯЗ ТОЛКУ КАНУЎ У СЫРУЮ ПРАМАРОЖАНУЮ КАШУ, НІ НА ШТО НЯ ГОДНУЮ ПАСЛЯ ЧАПУРЫСТАЙ ЗАМАРОЗКІ І НЕАКУРАТНАГА АДТАЙВАННЯ.

ЯНЫ БЫЛІ ВЫМУШАНЫ ЗАНЯЦЦА АДНАЎЛЕННЕМ. ШМАТТЫСЯЧНАЯ ПРОЦЬМА РОБАТАЎ - КОЖНЫ НЯ БОЛЕЙ МАЛЕКУЛЫ - РАЗАМ УВАРВАЛІСЯ Ў МОЗГ МЭРЫ.



ПРЫ ТАКІХ ПАМЕРАХ ЯНЫ ЛЁГКА ПЕРАМЯШЧАЮЦЬ АСОБНЫЯ АТАМЫ, БЫЦЦАМ ЦАГЛІНКІ, ВЫБУДОЎВАЮЧЫ ТОЕ, ШТО ТРЭБА З ТАГО, ШТО ЁСЦЬ.






РАЗВЕДЧЫКІ ВЫШУКВАЛІ ІНФАРМАЦЫЮ ПРА КЛЕТАЧНУЮ СТРУКТУРУ, А ЗАТЫМ ГНАЛІ Ў БОЙ ПЯХОТУ – КЛЕТКУ ЗА КЛЕТКАЙ – ЗАЛАТВАЦЬ МОЗГ МЭРЫ.
POTT
РЭКАНСТРУКТАРЫ ПАСПЕЛІ ПАПІЦЬ КАВЫ.
ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ СТВАРЫЦЬ ВОКА.
У ТРЫ ГАДЗІНЫ ПАПАЛУДНІ Ў СІТЫ НАРЭШЦЕ АТРЫМАЛАСЯ ЎПЫРСНУЦЬ СЛІНУ-АДМЫЧКУ Ў ВАДКАСНЫ ЗАМОК ПЕРСАНАЛЬНАГА ДЫРЭКТАРСКАГА БАРА. РАНЕЙ СІТА БЫЛА ХАТНЯЙ ГАСПАДЫНЯЙ, І ДЗЯЖСЛУЖБА БЫЛА ДЛЯ ЯЕ ТАК САБЕ КАР'ЕРНЫМ ЗРУХАМ.
АЛЕ ЗНОЎ ЗАПУСЦІЎШЫ ШЧУП, ЯНЫ ТРАПІЛІ НА СЛЕД ЦЯЛЕСНАЙ ПАМЯЦІ, ВЫБРАЛІ САМЫЯ ВЫРАЗНЫЯ ФРАГМЕНТЫ І ЎВЯЛІ ДАНЫЯ Ў СКАРАВАРКУ. У МЕШАНІНЕ З ЗЯМЛІ І ВАДЫ РОБАТЫ-БАКТЭРЫІ ПАЧАЛІ СТВАРАЦЬ САМУЮ СКЛАДАНУЮ МАШЫНУ НА СВЕЦЕ.
ЗАДУМАЙЦЕСЯ НА ІМГНЕННЕ. СКАРАВАРЦЫ ДАЛІ ЗАГАД, ЯКІ БОЛЬШАСЦЬ З ВАС І СУР'ЁЗНА НЕ ЎСПРЫНЯЛА Б: ЗЛЯПІЦЬ З ВАДЫ І СЛІЗІ ВЫСОКАДАКЛАДНУЮ ШЫРАКАКУТНУЮ КАМЕРУ, ЯКАЯ МОЖА РАСПАЗНАЦЬ ПАЎНАВАРТАСНЫ 3D – СІГНАЛ.
І ПАКУЛЬ МЭРЫ РАСЛА Ў БУТЭЛЬЦЫ З БРУДНАЙ ВАДОЙ, РЭКАНСТРУКТАРЫ АДКАРКАВАЛІ БУТЭЛЬКУ ВІШНЁВАЙ ГАРЭЛКІ.


ДА ТАГО ЧАСУ, ЯК НОВАЕ ЦЕЛА МЭРЫ БЫЛО СТВОРАНА, СІТА ЗМАГЛА НАПАІЦЬ МІШЭЛЬ І ЦЯПЕР УЛАГОДЖВАЛА ЯЕ Ў ПРЫБІРАЛЬНІ, А УМБЕРТА МАЧЫЎСЯ Ў ПУСТЫ БАК З-ПАД МЭРЫНАЙ ГАЛАВЫ, БАВЯЧЫСЯ ТЫМ, ЯК МАЧА ПАТРЭСКВАЕ Ў РЭШТКАХ АЗОТУ.


АСТАТНІЯ РЭКАНСТРУКТАРЫ, ХІСТАЮЧЫСЯ, ЛЕДЗЬ РАСКРУЦІЛІ ПЕРАДАТАЧНЫЯ РУКАВЫ, ПАДКЛЮЧЫЛІ ГНІЛУЮ ГАЛАВУ БЫЛОЙ МЭРЫ І МЭРЫ ДВАЦЦАЦІПЯЦІГАДОВАЙ, СВЕЖАЗЛЕПЛЕНАЙ І АБСАЛЮТНА ЗДАРОВАЙ І ПЕРАПАМПАВАЛІ ЁЙ ПАМЯЦЬ.


СПРАВА БЫЛА ЗРОБЛЕНА. ЯНЫ ВЫКЛІКАЛІ КАНСУЛЬТАНТА, АДЦЯГНУЛІ СІТУ АД МІШЭЛЬ, ПРЫВЯЛІ МІШЭЛЬ ДА ПРЫТОМНАСЦІ І ЎМАТАЛІ Ў БАР – ГУДЗЕЦЬ ДОСВЕТА.


ВОСЬ ТАК І АДБЫЛОСЯ ДРУГОЕ НАРАДЖЭННЕ МЭРЫ.


ПРАЗ ПЯЦЬ ХВІЛІН НАНАСІСТЭМА ЖЫЦЦЯПАДТРЫМАННЯ, ЯКАЯ КІРАВАЛА КРОВАЗВАРОТАМ МЭРЫ, АДЧЫНІЛА ЗАВАЛЫ І ДАЗВОЛІЛА ЁЙ ПРАЧНУЦЦА.


ЯНА АЧУЛАСЯ ПАСЯРОД НЕПРЫБРАНАГА ПАКОЯ БЯЗ ВОКНАЎ, У САМОЦЕ І СЫРАСЦІ, З ЗАБІТЫМІ БРУДАМ ПАД ПАЗНОГЦЯМІ, ЗМЕШЧАНАЯ Ў ТУГОЕ ЦЕЛА НІБЫ Ў ЦЕСНУЮ ПАЛЬЧАТКУ.


ПРАЗ ДЗЕСЯЦЬ ХВІЛІН ПРЫЙШОЎ КАНСУЛЬТАНТ. ДА ТАГО ЧАСУ МЭРЫ ПАСПЕЛА ПЕРАЖЫЦЬ ЛЁГКІ ШОК.


АЛЕ ГЭТЫМІ ДНЯМІ АД КАНСУЛЬТАНТА З'ЕХАЛА ЖОНКА, ТАМУ ЯГО ГАЛАВА БЫЛА ЗАБІТА БОЛЬШ ВАЖНЫМІ ПЫТАННЯМІ. НАПРЫКЛАД, ДЗЕ, ЧОРТ ДЗЯРЫ, ЦЯПЕР ШУКАЦЬ ЖАНЧЫНУ, ЯКАЯ ЧЫНІЦЬ У ПАСЦЕЛІ ТЫЯ АГІДНАСЦІ, БЕЗ ЯКІХ У ЯГО НІЯК НЕ АТРЫМЛІВАЛАСЯ ЎЗБУДЗІЦЦА?


МЭРЫ ЯМУ АДРАЗУ СПАДАБАЛАСЯ. ЗГРАБНАЕ ЮНАЕ ЦЕЛА, ЗЛЁГКУ АШКЛЯНЕЛЫ ПОЗІРК, У МЕРУ ЗАМУЧАНАЯ ФІЗІЯНОМІЯ, А ПАД ПАЗНОГЦЯМІ БЫЦЦАМ ЛАЙНО. ЦУДОЎНА.


ЁН, ЯК І ТРЭБА, УРУЧЫЎ ЁЙ КУПАЛЬНЫ ХАЛАТ, ПРА СЯБЕ З ПАЛЁГКАЙ АДЗНАЧЫЎШЫ, ШТО Ў ГЭТЫ РАЗ ЯГО ПАМЫЛІ.
















СКАЗАЎ, КОЛЬКІ.






– КАЗАЎ КАНСУЛЬТАНТ, І, ВІДАВОЧНА, ЯГО НЕ ХВАЛЯВАЛА, СЛУХАЕ ЯНА ЯГО ЦІ НЕ.





СПУСКАЛІСЯ НА ЗВЫЧАЙНЫМ ЛІФЦЕ. А ЗНАДВОРКУ, НА ЗВЫЧАЙНАЙ ВУЛІЦЫ ЯЕ ЧАКАЎ, МАБЫЦЬ, ЗВЫЧАЙНЫ АЎТАМАБІЛЬ ЦІ АЎТОБУС.

НА САМОЙ СПРАВЕ, А ШТО ЗМЯНІЛАСЯ? ВОХ, ВОСЬ БЫЛО Б ДЗІЎНА, СПАДЗЯВАЛАСЯ ЯНА.

АЛЕ Ж У МІНУЛЫМ ЖЫЦЦІ Ў ЯЕ ЗУСІМ НЯДРЭННА АТРЫМЛІВАЛАСЯ ЎПРАВІЦЦА З ГЛАБАЛЬНЫМІ ЗМЕНАМІ.

Civic Center

АД ЧАТЫРОХЗНАКАВЫХ НУМАРОЎ – ДА ІНТЭРНЭТУ. АД ДРАЎЛЯНЫХ САМАЛЁТАЎ – ДА МАРСАХОДА.

АДТУЛЬ – СЮДЫ.


GIVE M
ONE G
FIREN
FIRE
The Beheaded


LONG PIG®
Cloned human meat at prices you like!


FOR
SPKF
HYDR


SEX
VISION
ВІШЧЫМ, ПАРАСЯТКІ!
ВІШЧЫМ, ПАРАСЯТКІ!




PAWN
POSS
ZED







КАЛІ ЯНА ДАБРАЛАСЯ, УСЕ АБЕДАЛІ. ЯЕ НАКАРМІЦЬ НІХТО НЕ ЗДАГАДАЎСЯ.

188

190

ЯЕ ПРАВЯЛІ ПА ЛАБІРЫНЦЕ З ЛОЖКАЎ, ЯКІЯ ТАНУЛІ Ў РЭЗКІМ СМУРОДЗЕ, ШТО СЫХОДЗІЎ АД СПЯЧЫХ.






ЯНА Б МАГЛА ПАВЕДАЦЬ БУДУЧЫНІ, ЯК ГЭТА – УБАЧЫЦЦА З ЧЭ ГЕВАРА Ў ТРУХЛЯВЫМ БУДЫНКУ КУБІНСКАЙ ШКОЛЫ.

МАГЛА Б ПАВЕДАЦЬ ПРА АПОШНЮЮ КАРАЛЕВУ, ПРА АЛЬБЕРТА ЭЙНШТЭЙНА І ЯШЧЭ МІЛЬЁНЫ ПРАЎДЗІВЫХ ГІСТОРЫЙ.

АЛЕ БУДУЧЫНІ БЫЛО ЎСЁ РОЎНА.

БУДУЧЫНЯ ПРЫТРЫМЛІВАЛАСЯ ДАМОВЫ З МІНУЛЫМ: АЖЫЎЛЯЛА ІХ, ВЯРТАЛА ІМ ГРОШЫ (І НАВАТ ПАДПРАЎЛЯЛА СУМЫ НА ІХ КАРЫСЦЬ, НАСУПЕРАК ІНФЛЯЦЫІ І ДЭВАЛЬВАЦЫІ), ДАВАЛА ПРЫТУЛАК.

І АДМАХВАЛАСЯ АД ІХ ЯШЧЭ АДНОЙ ТАЙНАЙ ДАМОВАЙ: НЕ ДАЙМАЙЦЕ НАС. НАМ НЕЦІКАВА.

ІНШЫЯ ЖЫХАРЫ ПРЫТУЛКУ ЎСЕ ДА АДЗІНАГА БЫЛІ ТРАЎМІРАВАНЫ ТАКСАМА, ЯК І МЭРЫ. РАНА ЦІ ПОЗНА ЯНЫ СУТЫКАЛІСЯ ТВАРАМ У ТВАР З ВОНКАВЫМ СВЕТАМ, І ЁН ВЫПАЛЬВАЎ У ІХ УНУТРЫ НЕШТА ВАЖНАЕ.

У ПРЫТУЛКУ І НАВАКОЛЬНЫХ ЗАВУЛКАХ ЧАСТА ПАЧЫНАЛІСЯ БОЙКІ. ДЛЯ БАЛЬНІЦ ДАЎНО СТАЛІ РУЦІНАЙ ПАРЭЗЫ І ЎДАРЫ, НАНЕСЕНЫЯ ТУПЫМІ БУТЭРБРОДНЫМІ НАЖАМІ – АДЗІНЫМ ПАДАБЕНСТВАМ ЗБРОІ, ЯКАЯ ВАДЗІЛАСЯ Ў ДАСТАТКУ Ў КАМОРЦЫ ПРЫТУЛКУ.

КОЖНУЮ НОЧ ТУТ ЛІЛІСЯ СЛЁЗЫ І РАЗДАВАЛІСЯ КРЫКІ.

СЛЁЗЫ І КРЫКІ МЭРЫ – У ТЫМ ЛІКУ.

УДЗЕНЬ АДРОДЖАНЫХ ВЫПРАВАДЖАЛІ З ПРЫТУЛКУ НА ВУЛІЦУ.

БОЛЬШАСЦЬ ПРЫ СВЯТЛЕ ДНЯ ЎПАДАЕ Ў СТУПАР. ДА АБЕДУ ТЫЯ, ШТО МАЦНЕЙ, ТРАДЫЦЫЙНА ЗГАНЯЮЦЬ АСТАТНІХ У КУЧУ І ЗАЦЯГВАЮЦЬ У БУДЫНАК.

МЭРЫ ТУЛІЛАСЯ Ў ВУЗКІХ ЗАВУЛКАХ, ДЗЕ СВЯТЛО І РОЎ ГОРАДА ЗЛЁГКУ ПРЫГЛУШАНЫ.

І ЗАГАВОРВАЕ З КОЖНЫМ, ХТО ГАТОВЫ СЛУХАЦЬ.

ЯНА ПАВЕДАМЛЯЕ ПРА СВАЁ АДРАДЖЭННЕ, АБЫЯКАВА І ДАКЛАДНА, ВА ЎСІХ ЖУДАСНЫХ ПАДРАБЯЗНАСЦЯХ. У ЯЕ ВОСТРЫ ПОГЛЯД ФАТОГРАФА. У АСТЫЛЫМ РОЗУМЕ ЯНА ЗАХОЎВАЕ ДАКУМЕНТАЛЬНЫЯ ЗДЫМКІ СВАЙГО НОВАГА ЖЫЦЦЯ.

ЯШЧЭ ЯНА РАСКАЗВАЕ ГІСТОРЫІ ПРА МІНУЛАЕ.

ДЗІЎНЫЯ, ПОЎНЫЯ ЦЯПЛЫНІ ГІСТОРЫІ ПРА СТЫВЕНА ХОКІНГА, ЯКІ СПАСЦІГАЕ СУСВЕТНЫЯ ДАЛЕЧЫНІ Ў ІНВАЛІДНЫМ КРЭСЛЕ, ПРА ТАНЦЫ З ДЗЕЦЬМІ Ў ПЫЛЕ ЗІМБАБВЭ, ПРА ШПАЦЫРЫ З МІХАІЛАМ ГАРБАЧОВЫМ ПА ЗАСНЕЖАНАЙ МАСКВЕ...

...ПРА ДЖОНА КЕНЭДЗІ, ЯКІ ГУЛЯЕ Ў КВАЧ У БЕЛЫМ ДОМЕ, НЭЛЬСАНА МАНДЭЛУ, ЯКІ СМЯЕЦЦА З НЕПРЫСТОЙНЫХ ЖАРТАЎ НА ВУЛІЦАХ ЯГАНЭСБУРГА, ХЛОПЦА, ЯКІ ЗАСТУПАЕ ДАРОГУ КІТАЙСКАМУ ТАНКУ...

ГІСТОРЫЯ, ШТО НАС УЗВЫШАЕ.


МАБЫЦЬ МЭРЫ І ПРАЖЫВЕ ЯШЧЭ СТАГОДДЗЕ, АЛЕ ЯЕ ГІСТОРЫЯ СКОНЧАНА.


УСЯМУ СВАЕ ЧАС І МЕСЦА.







